# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 39 (1533) ГОД XXX БЕЛАСТОК 29 ВЕРАСНЯ 1985 г. ЦАНА 10 зл.

## ЗАЛОГ ПОСПЕХУ— ВЕРА Ў ЛЮДЗЕЙ

Бельпо — найбольшы ў Польшчы вытворца пасцельнай бялізны і патэнтат у пашыве мужчынскіх кашуляў і піжамаў, дамскіх блузак і спаднiц, дзіцячых фартушкоў і шапачак. Невялікі, бо ўсяго 900--асабовы калектыў працаўніц і працаўнікоў Бельпо, штогод выпускае каля 7 мільёнаў 500 тысяч штук рознага роду просцінаў, навалачак, пошваў і г.д. ды некалькі сот тысяч штук вопраткі. Штодня праз іхнія рукі праходзіць 150 тысяч метраў розных тканін, а за год яны перапрацоўваюць 32 млн. м. У бягучым годзе Бельпо плануе прадаць сваіх вырабаў на 3 мільярды 700 мільёнаў злотых і слова стрымае, бо за апошнія чатыры гады яшчэ не здарылася так, каб яно не перавыканала сваіх планаў і то ў важкіх памерах.

Да прыходу Міхала Клімовіча на пасаду старшыні Бельпо гэты кааператыў аніяк не мог прабіцца са сваімі вырабамі на замежныя рынкі. Цяпер жа ўсё, што пашыюць бельпаўскія майстрыхі, знайшло б ахвочых пакупнікоў у замежных краінах, і то ў такіх патрабавальных гаспадынях, як у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, Аўстрыі, Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі, Савецкім Саюзе, Даніі, Швецыі, Фінляндыі, Канадзе, Аўстраліі. І не

(Працяг на стар. 3)



Міхал Клімовіч.




### ВЯРНУЦЦА ДА КРЫТЫКІ

Мяне ў навакольных вёсках ведаюць як карэспандэнта „Нівы". Людзі часта падказваюць мне, дзе што дзеецца — добрае ці злое — і просяць, каб я напісаў аб гэтым у „Ніву". Я стараюся слухаць людзей, але дапамагчы не заўсёды абяцаю. Абяцаю толькі, што аб усім важнейшым напішу ў „Ніву" — хай чытаюць іншыя, можа крытыка паможа.

Аднойчы давялося мне быць у Трасцяніцы. Было свята Спаса — 19 жніўня. Каля крамы стаяла многа людзей, чакалі хлеба. Пераважна былі гэта старэйшыя сяляне-пенсіянеры. Падышоў да мяне адзін дзядзька і кажа: „Коля, ты пішаш у „Ніву", а я пастаянны чытач яе і твае артыкулы чытаю. Паспрабуй дапамагчы старым. Нам цяжка ехаць далей, а патрэбны нам найчасцей лякарствы, якіх ад нейкага часу не купіш у Трасцяніцы.

Хачу сказаць тут, што даўней у Трасцяніцы быў лекар і ўсім жыхарам навакольных вёсак было гэта вельмі зручна. Але дзесь вышэй вырашылі інакш — лекара таго забралі, а абсталяваны будынак пункта аховы здароўя з шыльдай стаіць і нічога. Калі чалавек праходзіць каля гэтага будынка і гляне на яго, то кожнаму сэрца сціснецца за такі беспарадак.

Калі мы так яшчэ гутарылі з дзядзькам, вакол пачалі збірацца іншыя людзі. Я запытаўся, як яны ацэньваюць „Ніву". Многія адказалі, што „Ніва" многа ў чым дапамагае і што яна стновіцца газетай штораз больш папулярнай і прыгажэйшай. Толькі дзядзька Сцяпан запытаў, чаму загінула ў „Ніве" рубрыка „У адказ на нашу крытыку". Калі ты, казаў дзядзька, крытыкаваў якую ўстанову ці прадпрыемства, то потым падавалі адказ на тваю крытыку. А ці цяпер твае артыкулы адбіваюцца ад вуха крытыкаваных, як гарох ад сцяны, што ніхто не адказвае?

Праўду дзядзька сказаў. Можа варта было б вярнуцца да рубрыкі „У адказ на нашу крытыку"? Можа тады адгукнуліся б на старонках „Нівы" і ўлады ЗОЗ у Гайнаўцы і адкрылі б тайну закрытага пункта аховы здароўя ў Трасцяніцы? Ці будзе ён калі-небудзь адкрыты, ці ўжо трэба і забыць, што такі быў у Трасцяніцы? Адказу на гэтае пытанне чакаюць жыхары Трасцянкі і ўсіх навакольных вёсак.

**М. Лук'янюк**



У супрасльскіх лясах. Фота М. Гайдука.

* * *

Скарбонка мінулага...
Спадчынны боль.
Лясы. Бранзалеты з запясцяў Рагнеды,
з пасагу яе, што прыналаджвае беды
пад гэту расшытую зоркамі столь.
Курганне. Чужынцамі спалены шлях.
Палі, што крывёю стагоддзяў заліты.
Палонная помста. І горыч малітвы,
што выплеснуць сэрцы ў аглухлы абсяг.
Не словы я чую, а водгулле слоў,
цяжкіх не славянскім вазьмом,
а нязгодай
за гонар зямлі і бацькоўскага роду
мець благаслаўленне суседніх часоў,
Не горкія словы, а водгулле іх
замшэлыя сцены ўспаміну хістае —
у цень іх бяссонна, балюча ўрастае
самотнае дрэўца ўспамінаў маіх.
Лясы. Галасоў іх магутны прыбой.
Здабытая доля. Гасцінец шырокі.
Раскопкі... Забытыя словы... І крокі...
Ў скарбонцы мінулага —
спадчынны боль.

**Таіса Бондар**




## АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (V)

На каго кладзецца галоўная адказнасць за тое, што многія беларусы так блытаюць дзве розныя праблемы: дзяржаўнасць і нацыянальнасць?

Перш за ўсё на тых, хто фарміруе чалавечыя душы. А да такіх людзей трэба аднесці галоўным чынам настаўнікаў, літаратараў, публіцыстаў, духоўных, дзеячоў Беларускага таварыства. І няма сумненняў, што многія з прадстаўнікоў названых вышэй прафесій вядуць акрэслено глыбока чалавечую дзейнасць у галіне высвятлення беларусам таго, што яны беларусы. Факт, што ўвогуле трэба весці такую дзейнасць у канцы XX стагоддзя не недзе ў афрыканскім бушы, а ў цэнтры Еўропы, па сваім характары не толькі не смешны, але і трагічны.

Тым болей, што ніводная з акружаючых нас нацый не мае такіх праблем. Ці ж, скажам, польскія, рускія, чэшскія ці літоўскія паэты або духоўныя павінны выясняць сваім верным, што яны палякі, рускія, чэхі, літоўцы? Напэўна няма такой патрэбы, бо чытачы гэтых паэтаў і прыхаджане гэтых духоўных добра ведаюць, хто яны. І нягледзячы на гэта як паэты і духоўныя, так і настаўнікі і публіцысты часта напорыста і інтэнсіўна кранаюць нацыянальную тэматыку. Як жа моцна ў тысячных і мільённых словах падкрэсліваюць яны неабходнасць дамінацыі любві да свайго роднага, як паслядоўна насычаюць яны сэрцы людзей пераканаңнем, што іх нацыя высакародная, дасканалая і што малейшае аслабленне пачуццяў вернасці ёй і прывязанасці да яе ёсць формай здрады і рэнегацтва. Ці можа нехта з нас уявіць польскага паэта або ксяндза, які, працуючы нават далёка ад Польшчы, скажам, у Бразіліі ці Нігерыі, не гаварыў бы безупынна сваім чытачам або прыхаджанам, што яны палякі і што іх маральны і свяшчэнны абавязак заключаецца ў бязмежнай любві да розных праяваў польскасці? Да такой, зрэшты, поўнасцю ўматываванай, лагічнай і высакароднай дзейнасці абавязвае польскага паэта і ксяндза яго маральны кодэкс. А як выглядае гэта справа ў нас, у беларускіх паэтаў і духоўных на Беласточчыне? Было б глупствам і няпраўдай, калі б я сказаў, што выглядае гэта ва ўсіх безнадзейна і страшна. Калі б я так сказаў, дык асудзіў бы і самога сябе. І ўсім тым, хто не крывіць душой, хто кіруецца элементарнымі фактамі і тлумачыць сваім чытачам і прыхаджанам, што можна быць польскім грамадзянінам, а пры гэтым — беларусам, нізкі паклон і падзяка. Аднак ёсць, на жаль, і вялікая колькасць людзей, якіх, з увагі на характар іх занятказ і творчасці, можна было б назваць духоўнымі бацькамі беларускай меншасці, а якія паводзяць сябе так, як бы стан свядомасці беларускай меншасці быў квітнеючы і нічога не трэба на гэтую тэму ні пісаць, ні гаварыць. А ёсць і такія, якія, ідучы ўразрэз з фактамі, заяўляюць публічна: мы — палякі. На жаль, і сярод „белавежцаў" знойдзецца не мала такіх, у творчасці якіх нават са свечкай не знойдзецца такіх слоў як „беларус", „беларускі", „беларуская мова". Паводзяць яны сябе так, як бы беларусы цвёрда і паслядоўна трымаліся свайго роднага, як бы беларусы расхватвалі нашы зборнікі, як бы дзеці-беларусы масава гарнуліся на заняткі беларускай мовы. І ўсё было лепш, чым трэба.

**Алесь Барскі**




## АДКАЗ Х. ПЕРЭСУ ДЭ КУЭЛЬЯРУ

Пастаяннае прадстаўніцтва БССР пры ААН накіравала генеральнаму сакратару ААН Х. Перэс дэ Куэльяру адказ Беларускай ССР на просьбу да краін — членаў ААН выкласці сваю думку аб дзейнасці ААН у галіне раззбраення. У ім гаворыцца:

Разглядаючы пытанне аб ролі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у галіне раззбраення, Беларуская ССР зыходзіць з таго, што ўзнікшая міжнародная абстаноўка настойліва патрабуе аб'яднання намаганняў усіх дзяржаў — вялікіх і малых — для вырашэння задач, якія стаяць перад чалавецтвам у галіне прадухілення ядзернай вайны, абмежавання гонкі ўзбраенняў і раззбраення. Беларуская ССР лічыць, што Арганізацыя Аб'яднаных Нацый з'яўляецца форумам, які адпавядае названым задачам. ААН павінна і можа адыграць значную ролю ў барацьбе за прадухіленне ядзернай вайны і раззбраенне. Для гэтага ёсць усе аб'ектыўныя перадумовы, уключаючы разгалінаваны механізм, заснаваны на рашэннях першай спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, прысвечанай раззбраенню, і цэлую сістэму мэт і метадаў іх дасягнення, замацаваную ў рэзалюцыях Генеральнай асамблеі.

Калі многія з гэтых мэт застаюцца нерэалізаванымі і прагрэс на шляху іх дасягнення не можа разглядацца як здавальняючы, то справа тут не ў недахопах самой ААН і існуючага механізма ў галіне раззбраення. Прычына — перашкоды, якія ставяць на шляху прагрэсу вядомыя сілы і, у першую чаргу, ЗША і іх бліжэйшыя саюзнікі, блакіруючы намаганні іншых дзяржаў. Вось чаму Беларуская ССР неаднаразова падкрэслівала, што для руху наперад неабходна палітычная воля з боку ўсіх краін.

## МАЛАДОСЦЬ ПАРКУ

Помнікам прыроды рэспубліканскага значэння аб'яўлены пейзажны парк у вёсцы Свяцк Гродзенскага раёна, пасаджаны два стагоддзі назад прыгоннымі сялянамі. На дваццаці гектарах растуць дзесяткі відаў дрэў і кустоў. Беларуская флора дапоўнена экзатычнымі раслінамі з іншых кантынентаў. Прыжыліся, напрыклад, пірамідальная туя, кіпарысападобны ядловец, серабрыстая елка.

Парк, абноўлены па спецыяльнаму праекту, стаў неад'емнай часткай зялёнай зоны размешчанага па суседству рэспубліканскага санаторыя. Адпачываючыя, мясцовыя аматары прыроды клапатліва аберагаюць гэты цудоўны куток.

## „БУДУЕ" ЛАЗЕР

Прывычны парадак размяшчэння дэталей у вузлах камп'ютэраў і многіх электронных прыбораў быў зменены па прапанове вучоных Мінскага радыётэхнічнага інстытута. Зрабіць гэта ім памагла лазерная інфармацыйна-вымяральная сістэма метралагічнага забеспячэння вібрацыйных выпрабаванняў, распрацаваная ў вышэйшай навучальнай установе.

Дзякуючы новаму сродку кантролю даследчыкам удалося своечасова змяніць і мацаванне асобных элементаў схем, і выявіць непажаданыя дэфармацыі, выкліканыя цеплавым расшырэннем матэрыялаў...

Навінка ўжо рыхтуецца да серыйнай вытворчасці.




Studia i materiały do dziejów miasta Białegostoku. T. 4. Pod red. H. Majeckiego. PWN, Białostockie Towarzystwo Naukowe, 1985. Str. 252, il., fot., mapy. Cena 240 zł. (Prace BTN, Nr 29).

Jadwiga Głuszkowska — Zaimki nieokreślone we współczesnym białoruskim języku literackim. Komitet Słowianoznawstwa PAN, Zakład Narodowy im. Ossolińskich. Wrocław 1985. Str. 100, Cena 90 zł. (Monografie Slawistyczne, Nr 45).

Michał Kondratiuk — Elementy bałtyckie w toponimii i mikrotoponimii regionu białostockiego. IS PAN, Wrocław 1985, Str. 292, Cena 240 zł. (Prace Slawistyczne, Nr 41).

Bronisław Szymański — Osada tremadoku i arenigu w północno-wschodniej Polsce. Wydawnictwo Geologiczne, Warszawa 1984. Str. 88 rys., mapy, Cena 110 zł. (Prace Instytutu Geologicznego, Nr 118).

О. Н. Левко — Витебск 14—18 вв. (Стратиграфия, хронология, социально-историческая топография и технология производства). „Наука и техника". Минск 1984, стр. 230. Цена (у ПНР) — 108 зл.

Katalog świątyń i duchowieństwa Prawosławnej Diecezji Białostocko - Gdańskiej (stan na dzień 1.I.1985 r.) Białystok 1985, Str. 100, Cena 900 zł.

Andrzej Gawęcki — Gorzkie żale nad „Kameną". (Białostocka Fabryka Mebli). „Odrodzenie" (W-wa). R. 1985, Nr 7, s. 13.

Jerzy Leszek Olszewski — Potomek „Jagiełły". (O dębie w Białowieży). „Przyroda Polska" (W-wa), R. 1985, Nr 4, s. 12—13.

Krzysztof Wolfram — Zielone płuca Polski. (Województwa w północno-wschodniej części kraju). „Przyroda Polska". R. 1985, Nr 5/6, s. 9—11.

Andrzej Jagusiewicz — Turystyka w dolinie Biebrzy. „Przyroda Polska". R. 1985, Nr 5/6, s. 20—21.

Piotr Bajko — Może wreszcie będzie ośrodek? (dydaktyczno-metodyczny w Białowieży). „Głos Nauczycielski" (W-wa), R. 1985, Nr 28, s. 8.

Zbigniew Chętnicki — Bobry powróciły... (O wsi Bobrowniki), „Nasza Wieś" (Olsztyn), R. 1985, Nr 28, s. 3.

**П. Байко**




## АБКРАДЗЕНАЕ ДЗЯЦІНСТВА

Па канвенцыі Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) ад 1973 года ўстаноўлены мінімальны ўзрост прыёму на работу — 14 гадоў. Аднак шматлікія факты сведчаць, што і міжнародныя пастановы, і нацыянальнае заканадаўства шмат дзе парушаюцца, як у адносінах прыёму на работу, так і ў адносінах да ўмоў і аплаты працы.

На 69-й сесіі МАП (чэрвень 1983 г.), дзе ў якасці спецыяльнага пытання разглядалася становішча дзяцей у свеце, адзначаліся жудасныя ўмовы, у якіх жыве маладое пакаленне ў капіталістычным свеце: 40 тысяч дзяцей паміраe кожны дзень ад голаду і хвароб, 10 мільёнаў дзяцей кожны год становяцца фізічна непаўнацэннымі і слабымі на розум, 100 мільёнаў — галадаюць, у большасці выпадкаў гэта дзеці з сем'яў беспрацоўных або тыя, хто з малых гадоў па 10—12 гадзін шэсць дзён у тыдзень працуюць у цяжкіх умовах. На 39-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у 1984 годзе прыводзіліся і такія даныя: у краінах, што развіваюцца, і капіталістычным свеце кожную мінуту 30 дзяцей паміраюць ад недадання ці заразных хвароб, тады як кожную мінуту на ваенныя мэты выдаткоўваецца 1,3 мільёна долараў.

Па статыстыцы Дзіцячага фонда ААН, 75 мільёнаў дзяцей у краінах Лацінскай Амерыкі жывуць у стане „жудаснай галечы", каля 40 мільёнаў дзяцей не маюць даху над галавой.

Статыстыка выкарыстання дзіцячых мускулаў даволі трывожная: больш як 300 тысяч заходнегерманскіх дзяцей і падлеткаў заняты цяжкай працай, каб дапамагчы бацькам: каля 500 тысяч італьянцаў ва ўзросце ад 8 да 14 гадоў працуюць па 10—12 гадзін у суткі, каб не галадалі сем'і, у Англіі не менш 25 працэнтаў дзяцей 13—16 гадоў, апрача навучання, нелегальна працуюць, атрымліваючы мізэрную зарплату; у Бразіліі выкарыстоўваецца наёмная праца 2.900 тысяч дзяцей; у Турцыі працуе каля аднаго мільёна дзяцей ва ўзросце 12—14 гадоў.

Цяжкія ўмовы працы, адсутнасць тэхнікі бяспекі там, дзе працуюць дзеці, прыводзяць да шматлікіх выпадкаў вытворчага траўматызму. Не менш чым 60 тысяч дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў у ФРГ працуюць на забароненых для іх відах работ.

У ЗША прыкладна 600 тысяч дзяцей зарабляюць на жыццё прастытуцыяй. У Японіі на падлеткаў ва ўзросце 14—15 гадоў прыпадае 44 працэнты ўсіх злачынстваў, якія адбываюцца ў краіне.

**М.Р.**

# ЗАЛОГ ПОСПЕХУ — ВЕРА Ў ЛЮДЗЕЙ

(Працяг са стар. 1)

выпадкова, бо аж 69 вырабаў з Бельпо атрымала знак якасці (з Беласточчыны ўсяго каля 200 вырабаў мае гэтакі знак) і адзін выраб (пасцельная бялізна з карункамі) мае міжнародны знак якасці. Толькі вялікае запатрабаванне на гэтыя вырабы ўнутры краіны дазваляе яму прадаваць за мяжу ўсяго дзесятую частку вытворчасці. Але і за гэтую колькасць пры развaжлівым і ўдумлівым гаспадаранні гэтак званымі валютнымі водпісамі Бельпо на працягу апошніх трох год патрапіла памяняць усё сваё машыннае абсталяванне на навейшыя заходненямецкія і японскія машыны і так забяспечыцца запаснымі часткамі да іх, што замена вышаўшай з карыстання дэталі наступае адразу, маланкава. Тут людзі б'юць сапраўдныя рэкорды выдайнасці працы — адна швачка за адну змену патрапіць абрубіць 800 простыняў! Пры тым якасць гэтых вырабаў — дасканалая, пра што ўжо і лішне пісаць, бо гэта вядома кожнай нашай чытачцы. І не дзіва, калі ў мінулым годзе Бельпо адзначала 35-годдзе свае дзейнасці. Рада Дзяржавы ўзнагародзіла яго Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы. Бельпо — гэта адзіны ў Польшчы кааператыў, які ўдастоіўся такой высокай узнагароды. Ваяводская рада народовая адзначыла яго залатым знакам „Заслужаны для Беласточчыны".

— Перш за ўсё я веру ў людзей, — кажа М. Клімовіч на маё пытанне, якім чынам ён здолеў узняць на такі высокі ўзровень працу прадпрыемства. — Лічуся з кожным чалавекам, яго патрэбамі, цяжкасцямі. Стараюся заўсёды быць з людзьмі, дапамагаць ім у жыццёвых клопатах і цяжкасцях, калі гэта, вядома, у маіх сілах. Не ўмешваюся ў тыя справы, дзе людзі дадуць сабе рады без мяне. Для прыкладу: яны самі дзеляць узнагароды, бо найлепш ведаюць, каму і што належыцца; яны прапануюць найлепшых да адзначэнняў, бо ім найлепш вядома, хто на адзначэнне заслужыў і г.д. У нас няма ніякіх таямніцаў перад калектывам, як выконваем планы, якія маем дасягненні і якія цяжкасці — усё гэта падаем да агульнага ведама праз наш радыёвузел і ён наш вялікі выхаваўца. А на кіраўнічыя функцыі імкнуся ставіць людзей маладых. Проста таму, што кіраўніком ніхто не нарадзіўся — кіраўніка трэба выхаваць, навучыць, падрыхтаваць і праверыць. Калі чалавек не здасць экзамена, не здолее? Што ж, вяртаецца ён да папярэдняй працы і зусім не збіраецца ўцякаць ад людзей. Неабходна падкрэсліць, што наша прадпрыемства асаблівае і кіраваць ім значна лягчэй, чым іншымі прадпрыемствамі. У нас аж 95 прац. калектыву — гэта жанчыны. А з жанчынамі працуецца значна лягчэй, як з мужчынамі. Жанчыны дысцыплінаваныя, старанлівыя, дакладныя, больш чулыя на грамадскія і чалавечыя патрэбы. У нас няма такіх праблемаў, як п'янства, беспрычынная адсутнасць у працы. А пры жанчынах і мужчыны працуюць больш салідна. Ну, і адміністрацыйных працаўнікоў у нас вельмі мала — удвая менш, чым на іншых прадпрыемствах. Замест іх у нас працуюць камп'ютэры, бо наша прадпрыемства максімальна камп'ютэрызавана...

Гэты праўдзівы талент арганізатара і незвычайная працавітасць М. Клімовіча былі прыкмечаны і належна ацэнены партыйнай арганізацыяй. Ён, член ПАРП з 1961 года, актыўна дзейнічаў у партыйнай арганізацыі горада Беластока, а цяпер уваходзіць у склад Ваяводскага камітэта ПАРП і ўзначальвае ў ім эканамічную камісію — орган, які займаецца найважнейшымі праблемамі гаспадаркі Беласточчыны. Затым М. Клімовіч з'яўляецца старшынёю рады дробнай вытворчасці пры беластоцкім ваяводзе. Абавязкі хоць і грамадскія, але надта ж адказныя і патрабуюць многа працы і часу. Наколькі дзейнасць гэтых органаў карысная, найлепш сведчыць факт, што з вопыту Беластоцкага ваяводства скарыстала Рада Міністраў і стварыла такую агульнапольскую камісію пры Урадзе, а за прыкладам Беласточчыны ідуць іншыя ваяводствы краіны і ствараюць такія рады пры ваяводах. Камісія дае ацэнку прапанаваным для ўвядзення загадам ваяводы ў справах дробнай вытворчасці, гадавым і пяцігадовым планам, займаецца падзелам сыравіны, машын і г.д., прабуе стварыць ваяводскі фонд развіцця дробнай вытворчасці.

М. Клімовіч — вельмі сціплы чалавек. Ён не любіць гаварыць пра сябе. Гэта ўласцівасць людзей працавітых, салідных. А паходзіць ён з беларускай сям'і з вёсачкі Зубкі, што ў гміне Гарадок. Маці яго — звычайная сялянка, цяпер ужо пенсіянерка, а бацька — рабочы на чыгунцы, таксама ўжо пенсіянер. Выхавалі яны трох сыноў: два з іх афіцэры, а з трэцім мы ўжо знаёмы. Сыны дбаюць пра бацькоў, часта наведваюцца ў родныя Зубкі, іх шануюць людзі, ганарацца імі.

**М. Гайдук**

Фота аўтара

## ХРОНІКА

9 верасня 1985 года адбылося пасяджэнне секцыі культуры Галоўнага праўлення БГКТ, прысвечанае культурнай дзейнасці таварыства ў новым сезоне.

Быў прыняты каляндар культурных мерапрыемстваў на 1986 год. У сувязі з тым, што ў наступным годзе будзем святкаваць юбілей 30-годдзя БГКТ і „Нівы", усе нашы культурныя мерапрыемствы будуць прысвечаны гэтаму юбілею. Апрача традыцыйных, правераных ужо форм, такіх, як конкурсы, агляды і народныя фэстыны, плануецца арганізаваць летам 1986 года ў Беластоку свята беларускай культуры, якое будзе кульмінацыйным пунктам юбілейных святкаванняў. Прадбачваецца, што ў рамках гэтага свята ўсе нашы выдатныя калектывы змогуць запрэзентавацца шырокай грамадскасці.

Секцыя культуры ГП БГКТ абмеркавала справу інаўгурацыі новага культурнага сезона 1985/1986, а таксама прыняла план працы на новы культурны год.

**Віталій Луба**



**Разьба па дрэву з Саколкі.** **Фота М. Гайдука.**

### Куток філатэліста

## БЕЛАРУС-ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТ

Варта паказаць у філатэлістычнай калекцыі рабочага хлопца з Гомельшчыны, лейтэнанта Чырвонай Арміі Георгія Склязнёва. Званне Героя Савецкага Саюза яму прысвоена было пасмертна 27 чэрвеня 1937 г.

Ішоў лістапад 1936 года. Іспанская рэспубліка спыняла націск фалангістаў Франко і італа-германскіх інтэрвентаў. У гэтыя цяжкія дні ў порт Картахену прыбыў савецкі параход, на якім была група дабраахвотнікаў-танкістаў, у тым ліку і наш герой. У студзені 1937 г. ён камандаваў танкавым узводам, адзначыўся ў баях на Мадрыдскім фронце, за што атрымаў ордэн Чырвонай зоркі. 12 лютага 1937 г. у раёне Араганды Георгій Склязнёў разам з экіпажам танка не пакінуў гарэўшую машыну, вёў бой да апошняй хвіліны.

Лейтэнант Чырвонай Арміі Георгій Склязнёў пражыў кароткае, але яркае жыццё. Беларус, салдат-інтэрнацыяналіст, камуніст.

Міністэрства сувязі СССР у 1981 годзе выпусціла маркіраваны канверт, на якім бачым партрэт маладога лейтэнанта. Надпіс на двух мовах — рускай і беларускай: „Герой Савецкага Саюза лейтэнант Г.М. Склязнёў 1911—1937".

**В. Брацкі**

## У ВІДАВЕ — ГРАМАДОЙ!

На сходзе ў Відаве солтыс Аляксандр Сцяпанаў сказаў: „Хлопцы, трэба брацца за пачын, то будзе ездзіць да нас аўтобус МПК № 3!"

Так пачалося. У вольныя суботы і нядзелі жыхары вывозілі зямлю, прывозілі жвір, клалі трэлінку на крузе, дзе аўтобус паварочвае. Ніхто не марнаваў ані хвіліны часу. Вёска дружна выйшла на пачын. Працавала актыўна і грамадой, людзі зрабілі ўсё. Прыпынак каля мяшальні пашаў зрабілі рабочыя мяшальні. Стоўбікі памаляваў старшыня салэцтва Мікалай Белаказовіч. Прыпынак бліжэй горада Бельска зрабілі тыя, хто там жыве. Асфальтам залілі палатно шашы. Цэлымі днямі гаспадары вазілі трактарамі зямлю, засыпалі выбоіны. А былі гэта: Ілья Сычэўскі, Рыгор Асценюк, Мікалай Белаказовіч, Рыгор Себясевіч, Афанасій Себясевіч (па-сяброўску яго ў нас усе завуць Фонька) Уладзімір Белаказовіч. Памагала ў рабоце моладзь ЗСМП і ЛЗС.

Адкрыццё лініі адбылося ўрачыста. Усе зышліся, святочна апранутыя. З прамовай выступіў начальнік гміны Міхал Чаламей. Аўтобус № 3 на першым сваім курсе быў перапоўнены кожнаму хацелася паехаць у горад.

Цяпер я сядаю ў № 3 у Відаве і заязджаю аж на вакзал ПКП у Бельску. Білеты купляюць у кіёсках. Каму захочацца праехацца без білета — заплаціць кару 600 зл.

**Андрэй Гаўрылюк**




## ЗЁЛКА З ГЕРБАРЫЯ

Шпацыруючы па ўзлонні лугоў і лясоў, сустракаем многа розных гатункаў раслін, але не кожны з іх аднолькава кідаецца ў вочы. Шмат раслін мы проста не прыкмячаем, нягледзячы на тое, што праходзім побач іх некалькі разоў. Аднак бывае і наадварот. Якраз такім зёлкам, якое кожны прыкмячае, і ёсць панікніца (лацінская назва — Geum urbanum, kuklik pospolity — па-польску, гравилат городской — па-руску).

На гэтую незвычайную асаблівасць расліны ўпершыню звярнуў увагу савецкі фенолаг А. Стрыжаў. У гербарыях, з якімі яму давялося пазнаёміцца і якія былі складзены па чарзе іх камплектавання, адной з першых раслін заўсёды была панікніца. Праверыў я гэтую інфармацыю. Наведваючы добраахвотны атрад працы (ОГП), які працаваў у лесе, я папрасіў маладых людзей, каб кожны з іх, вяртаючыся дамоў, сабраў дзесяць зёлак, якія на яго думку найбольш прыгодны ў гербарый. На маё здзіўленне, з 28 чалавек, якія ўдзельнічалі ў гэтым эксперыменце, аж 24 прынеслі панікніцу! І што можа быць у гэтай расліне, што ўсе яе прыкмячаюць? Яна не выступае паўсюдна — расце пераважна на добрых і вільготных глебах, можна яе сустрэць у лісцевых, часам змешаных лясах, у зарасніках сярод поля, або на сметніках. Гэта зусім не буйная расліна, усяго 30—50 см вышыні. Кветкі таксама не надзвычайнай красы. Усё ж, аднак, яна прыцягвае зрок чалавека. Удаецца ёй гэта дзякуючы звычайным, але адначасна какетлівым паводзінам. Гэтыя паводзіны вельмі трапна выказаны ў беларускай назве расліны — панікніца, гэта значыць: пахілая, абвіслая, быццам прытушаная, маркотная. А як бывае на вясковых танцах? Ці не карыстаюцца найбольшым поспехам дзяўчаты, якія паводзяць сябе „сціплай какеткай“?

Сярод жыхароў Беласточчыны (а таксама іншых рэгіёнаў Польшчы) панікніца найбольш вядомая пад назвай гваздзікавага зелля. Яго даўным-даўно выкарыстоўваюць у хатняй гаспадарцы і народнай медыцыне.

Некаторыя людзі вырошчваюць у сваіх агародчыках або на участках. Надзвычай буйныя расліны бачыў я ў агародчыку Лількі Кунда на Пячурках у Беластоку.

Маладое лісце панікніцы прыгодна на зялёны салат. Рэкамендуюць рэцэпт: назбіраць 50 грам маладога лісця панікніцы і 50 грам зялёнай цыбулі, дробна пакрышыць, змяшаць са смятанай, пасаліць і зверху пасыпаць звараным „на крута“ яйкам. Салат вельмі смачны і надзвычай пажыўны.

Аднак найбольшае гаспадарчае і лячэбнае значэнне мае корань панікніцы (збіраюць яго ў месяцы кастрычніку). Дададзены да піва, засцерагае ад закісання і адначасова дасканала паляпшае яго пах і смак. Наліўка на карэннях панікніцы і апельсінавых скурках, дададзеная да белага вінаграднага віна дае смак вермута. Любіцелі карэнне панікніцы ўжываюць для араматызавання страваў. Палатняныя торбачкі з гэтым жа карэннем, пакладзеныя ў куфар з бялізнай або падвешаныя ў шафе з адзежай, эфектыўна засцерагаюць ад молі, не горш ад нафталіну, але адначасова вопратка прасяквае прыемным пахам.

Лячэбныя ўласцівасці панікніцы былі вядомы яшчэ ў часы Гіпакрата. У сярэднявеччы яе паўсюдна ўжывалі супраць малярыі. Навейшыя даследаванні не пацвердзілі істотнага лячэбнага ўздзеяння карэння панікніцы на гэтую хваробу, хоць не адмаўляюць яго ўплыву ў лячэнні страўнікава-кішэчных хваробаў. У кнігах можна знайсці нават такі рэцэпт на нарыхтоўку лякарства хатнім спосабам: адну сталовую лыжку сухога карэння панікніцы запарыць дзвюма шклянкамі кіпетню, піць па сталовай лыжцы 6—8 разоў у дзень. У старым лячэбніку чытаем: „Корань гваздзікавага зелля ўзмацняе сэрца і жыццёвыя сокі“. Дзеля гэтага рэкамендавалася піць вывар з карэння па лыжцы 4 разы ў дзень.

Сцёрты на парашок корань панікніцы і змешаны з непасоленым і неператопленым свіным тлушчам (саланінай) яшчэ пасля вайны быў адным з народных лякарстваў ад каросты.

У народнай ветэрынарыі вывар з карэнняў панікніцы давалі каровам, калі прыкмецілі кроў у іх мачы.

У нашыя часы панікніцу не ўжываюць у медыцыне.

**Б. Паскробка**

---

**Куток практычных ведаў**

## ВОСЕНЬ У ХАЦЕ

✻ К восені неабходна прагледзець вокны, прамазаць кітам усе шчыліны. Калі ў вас няма гатовага кіту-замазкі, вы можаце нарыхтаваць усё самі. Робіцца замазка з тонкага парашку крэйды і натуральнай аліфы. Сухую прасеяную крэйду насыпаюць на дошку або процівень, у сярэдзіне кучкі робяць лунку і туды льюць паступова аліфу, зграбаючы крэйду нажом у аліфу, і вымешваюць да густаты. Густую масу вымешваюць рукамі, як цеста, пакуль яна не перастане прыліпаць да рук. Замазка павінна быць пластычнай, раскатаны паміж далонямі валік не павінен разрывацца адразу, а паступова, утвараючы шыйку ў месцы разрыву.

✻ Замазка даволі хутка сохне, таму захоўваць яе лепш у цэлафанавым пакеце.

✻ Каб не рыхтаваць і не купляць лішняй замазкі, трэба ведаць, што на 1 м даўжыні аконнага фальцу, трэба 90—120 гр замазкі.

✻ На 1 кг замазкі трэба браць каля 800 гр тонкага парашку крэйды і 200 гр натуральнай аліфы.

✻ Калі вам трэба ўстаўляць вялікае люстранае шкло, частку крэйды (200 гр) замяніце сухімі цынкавымі або свінцовымі бяліламі; для зашклення металічных пераплётаў замест бяліл вазьміце ў той жа колькасці свінцовы або жалезны сурык.

✻ Зацвярдзелую замазку можна разбіць драўлянай калатушкай або размяць рукамі. У дужа зацвярдзелую дадайце крыху аліфы.

✻ Каб радыятары не пыліліся, зрабіце на іх тонкія марлевыя чахлы. Яны лёгка мыюцца і не затрымліваюць шмат цяпла. Чахлы можна пафарбаваць пад колер сцен.

✻ Перад прамазваннем рамы пратрыце крэйдай — яны не будуць псавацца ад замазкі.

✻ Калі аконныя рамы не шчыльна прылягаюць, прыбіце да іх тонкія драўляныя рэйкі, аклееныя байкай (ні ў якім разе не лямцам, бо ў ім заводзіцца моль).

✻ Каб шкло ў час марозу не замерзла, пакладзіце паміж рамамі вату, пастаўце шклянкі з сернай кіслатой. Можна захаваць шыбы ад замярзання, калі пратрацё іх сумессю з 1 часткі гліцэрыну і 3 часткі спірту.

✻ Перад тым як замазваць шыбы, выдаліце ўсю старую замазку стамескай, прааліфце фальцы і прасушыце.

✻ Калі старая замазка не счышчаецца, змажце яе на некалькі гадзін моцным растворам каўстычнай соды і вады, каб яна размякчылася.

✻ У выпадку, калі шкло давядзецца ўстаўляць у час марозаў, замазку трэба рыхтаваць больш мяккую і ўжываць падагрэтай да 20°.

✻ Пасля прамазкі фальцаў шыбы трэба працерці сухой анучай. Калі застаюцца плямы, праціраюць анучай, змочанай у газе.

---

(Праняг са стар. 7)

# ФРАНТАВЫ ДЗЁННІК

Марозаў Міша з батарэі — выдатны. Але яго жыццё кроіць на іншы лад. У яго няма дружбы для ідэі.

Яфім (Паас) — малайчына!

Ледзь не забыўся ўпісаць Зіну, але і яна — з маіх лепшых сяброў. [2])

Самая галоўная покуль што ў мяне — Маруся (Ліза Чапнік) [3]) са сваёй групай. Праўда, усе яны крыху рамантызуюць дружбу. Часам і фантазіруюць залішне. Увогуле, яны служаць станцыяй у маім жыцці, куды заязджаю адпачыць маральна ды набрацца свежай сілы, каб рухацца далей.

Астатнія сябры — так сабе сябры, але больш для забавы, правядзення часу, абмену інфармацыяй.

Толькі што атрымаў пісьмо з Дзернякова. Пытанне Любы — вырашана канчаткова. Яго, як і тады — з Веркай Настусінай [4]) — вырашыла мама. За тое, што з грудзей маіх зваліўся такі цяжкі камень, я маме надта ўдзячны.

10.VIII.45 г.

Атрымаў пісьмо з часці. У адзін дзень адразу — дванаццаць штук! Колькі радасці! Пісьмо прыйшло і ад Яфіма. Фатаграфію з баёў ўратаваў толькі адну — добра і гэта.

Нечакана вайна з японцамі. Вельмі цікава. Па-мойму, нічога страшнага, Японія паддасца.

Але галоўнае — атамная бомба, скінутая на Хірасіму і Нагасакі. Не магу спаць, так падзея мяне ўстрывожыла. Інфармацыя з польскіх газет, а ў нашых яшчэ няма.

17.VIII.45 г.

Вайна з Японіяй як нечакана пачалася, так нечакана і скончылася. Фрыда — дачка начальніка нашага шпіталя — гаворыць, што я — сапраўды разбіраюся ў палітыцы. З усяго шпіталя толькі адзін я прадбачыў хуткі канец. Усе ўпалі ў паніку. Эх, як крыўдна! Маёр адзін гаварыў — ну, цяпер нам крышка, бо краіна абяскроўленая. Я стаў даводзіць іншае, мяне высмеялі. Маўляў, я — хітры „заходнік“, так толькі прыкідваюся, а што я думаю — яшчэ ніхто не ведае.

Яфім піша аб узнагароджанні мяне ордэнам Айчыннай вайны II ступені. Нарэшце — хоць адзін! Яшчэ апісвае, як на зборы палка зампаліт апавядаў пра маё геройскае раненне (што ў ім геройскага — не ведаю. Прыляцела міна і накрыла!...).

Падручнік англійскай мовы праштудзіраваў грунтоўна — хоць экзамены здавай, а каму?

17.VIII.45 г.

Быў на медкамісіі. Чакаю канчатковага рашэння.

Атрымаў пісьмо ад Васілеўскага (Лёні з Карэліч). Ісаеў, Іваніцкі, Пшанічнік — забітыя. Вельмі шкада. Не магу змірыцца — такія слаўныя хлопцы.

У Пазнанскім універсітэце, дзе памяшчаецца наш шпіталь, заходзіў да прафесара-фізіка. Пажылая полька, вельмі разумная і вучоная. Надта шкадую, што заглянуў да яе так позна. Шмат цікавага расказала пра атам, чаго я і не ведаў. У сувязі з выбухам (Хірасіма, Нагасакі) тэма цяпер надта модная.

20.VIII.45 г.

Са шпіталя мяне адпускаюць па чыстай — канец! Пастаралася, вядома, Фрыда. Крыху сорамна. Нездарма гавораць — не мей сто рублёў, а мей сто сяброў.

Сёння атрымліваю свой пакет дэмабілізаванага: шэсць метраў матэрыі, два кг мукі, два — цукру, грошы, хлеб і каўбасу на дарогу...

**Аляксей Карпюк**

---

[1]) Вайсковы шпіталь знаходзіўся ў Познані — супроць заапарка.

[2]) Я тады яшчэ не ведаў, што навагрудчанку Зіну Маслоўскую немцы расстралялі. З партызан паслалі ёй пісьмо, а гітлераўцы яго перахапілі.

[3]) Былы кіраўнік антыфашысцкага камітэта ў Беластоку. Сёння — дацэнт педінстытута ў Разані.

[4]) Гл. падзеі ў дакументальнай аповесці „Пушчанская адысея“.

 

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Ваня ходзіць па падворку, глядзіць, ці ўсё ў парадку. Ён жа гаспадар. Аб ім так і кажуць: „Наш гаспадар". Сам жа Ваня думае, што яго лепш называць памочнікам. Ён памагае замятаць двор, рэзаць дровы і складваць іх, насіць корм курам і казляняці. Яго за гэта хваляць. А вось калі б Ваня быў сапраўдным гаспадаром, ён шмат бы тут змяніў. Самае галоўнае, перарабіў бы ўвесь хлеў.

У хляве чатыры загароды. Адна, самая вялікая, — для каровы. Карову называюць Снежанка, бо нарадзілася ў снежні. Другая загарода, меншая, для цяляці, яго называюць Люцік. Яшчэ ў хляве ёсць загародка для курэй і зусім маленькі куточак для казляняці Скакуна.

Тут многа несправядлівасці. Ваня ані разу не бачыў, каб карова хадзіла па хляве, яна заўсёды стаіць і жуе. І калі ёй корм даюць — стаіць, і калі яе мама доіць, і калі брат Коля хлеў чысціць — таксама стаіць. „Хоць бы пасунулася!" — кажа ёй Коля, але Снежанка стаіць. Ну дык вось, калі карова ўвесь час стаіць, навошта ёй такая вялікая загародка? Аддайце яе цяляці або казляняці! Ім жа так цесна!

[illegible]

Асабліва Ваня любіць казлянятка Скакуна. Ён, як папугай, лічыцца Ванечкавым, яго хоць карміць яму дазваляюць. Гэтае казляня і купіў сам Ваня. Яны ездзілі з татам у мястэчка на матацыкле, там прадавалі казлянят, і Ваня так учапіўся ў тату, так яго не адпускаў, пакуль тата не купіў казлянятка. Такое беленькае, такое маленечкае, такое пушысценькае... Калі ехалі назад, Ваня сядзеў у прычэпцы і трымаў казлянятка на руках. Ён успамінаў казку пра сястрыцу Алёнушку і брата Іванушку і думаў, што гэта не казлянятка, а зачараваны хлопчык. Вось ён адчаруецца, і яны будуць разам гуляць.

Але казлянятка не адчароўвалася, а любіла вельмі скакаць, скакала вельмі высока. Назвалі яго Скакуном і зачынілі ў хляве. Замыкаў яго тата. Пры гэтым прыгаварваў так, што Ваня ледзь не плакаў:

— Адсюль не выскачыш!

У хляве Скакун не застаўся маленькім і пушыстым, стаў шэрым і даўганогім. Сусед Сашка прыйшоў яго паглядзець і спытаў у Вані:

— Ён у цябе на ходулях ці што?

Але гэтага Сашку лепш не слухаць. Ён хвалько, заўсёды хваліцца.

— У нас, — кажа, — машына, а ў вас толькі матацыкл.

(Працяг на стар. 10)



**Мірка Кіпаль і Аліна Мацеюк — дзяўчаткі з Барысаўкі.**
**Фота Я. Чэрнякевіч.**

**Станіслаў Шушкевіч**

### З ЛЕСАМ МЫ СЯБРУЕМ

*Кожны з нас здаровы, дужы.*
*Мы заўсёды з лесам дружым.*
*Чуюць дрэвы, чуюць птушкі*
*Нашы песні-весялушкі.*
*Бачаць кветкі, бачаць травы*
*Усе вясёлыя забавы.*
*І, здаецца, дуб высокі*
*З намі разам пойдзе ў скокі.*
*Нашу весялосць, пацеху*
*У гушчар памчала рэха.*
*Захісталася маліна,*
*Усміхнулася каліна...*
*Мы ж не трацім час дарэмна,*
*У паходзе быць прыемна.*
*Але ж гэта ўсім відаць —*
*Можам мы і працаваць,*
*На пустым пагорку голым*
*Працавалі мы, як пчолы,*
*Падымаюцца сасонкі,*
*І расце маладнячок...*
*Паглядзіце, стройна, тонка*
*Падымаюцца сасонкі,*
*І міне гадочкаў пяць —*
*Міла дрэўцы зашумяць.*
*Мы ніколі не сумуем,*
*З лесам хораша сябруем,*
*Але ж гэта ўсім відаць —*
*Любім мы і працаваць.*

### ЁСЦЬ ГУЛЬТАЙ

*А у нашым класе пятым*
*Ёсць адзін гультай заўзяты,*
*Пра яго мы вам раскажам,*
*Ён у нас гультай са стажам.*
*Да цямна ў глухім завулку*
*Ганіць палкаю качулку*
*І гайсае, як вавёрка,*
*Ён па ўсіх навокал задворках.*
*Маніць хлопец, што учора*
*Зуб балеў, што быў ён хворы.*
*Пацірае хлопец скроні,*
*Перад класам пустазвоніць.*
*Пацірае хлопец лоб —*
*Відавочны бракароб.*
*У сваёй насценгазеце*
*Змесцім гультая партрэцік.*
*Бо чаго ж мы будзем варты,*
*Гэта ж сорам, а не жарты,*
*Калі ў нашым класе пятым*
*Абібок расце заўзяты.*

Мой сябар Іван жыве ў Рызе. А дача яго на ўзмор'і, ледзь не на самым пляжы — за тры крокі ад мора. Іван вельмі любіць падарожнічаць. Тым летам ён сабраўся са сваёй сям'ёй паглядзець Поўнач. Каб не пуставала дача ля мора, ён і прапанаваў мне правесці на гэты раз свой адпачынак на беразе Рыжскага заліва.

Угаворваць мяне не трэба было: даўно марыў аб такім адпачынку.

І вось сям'я сябра — за парог, у падарожжа, а мая сям'я — на парог, адпачываць.

Ні я, ні жонка, ні сын першай ноччу не спалі. Не да сну, калі ўпершыню бачыш мора. Мы доўга сядзелі на беразе, прыглядаліся да сіня-цёмнай вады і не маглі адарваць позіркі ад хваль, што накочваліся адна за адной на бераг. А дача тут, побач, стаміўся — адпачывай сабе на здароўе.

— Тата, — раптам закруціў галавою сын. — Шум нейкі на нашай дачы.

— Хвалі гэта, — кажу яму. — На дачы нікога няма.

— Ды ты паслухай.

Прыслухаўся. Сапраўды! Быццам чарада вераб'ёў раскрычалася.

Пайшлі да дачы. На карнізах акон доміка стаяў вераб'іны шум — дзесяткі тры шэрых, з карычневай галоўкай палявых вераб'ёў скачуць, б'юцца, крычаць сваё цвыр-цвыр, стукаюць дзюбкамі ў аконнае шкло, здаецца, вось-вось разаб'юць.

— Пэўна, дзядзька Іван вечарамі падкормлівае птушак, вось яны і сабраліся, — узрадаваўся вераб'ям сын. — Мама, дай хлеба, пакармлю.

— Кармі, — адказала жонка, здзіўлена пазіраючы на шумных гасцей. — Але ж на такую процьму аднаго бохана мала.

Птушкі паеліся хутка, здзяўблі нямнога. Адна за другой паселі на дрэвы і кусты бэзу, што густа разрасліся вакол дачы.

**В. Костылеў**

### ЗВІРБУЛІС

Стомленыя за дзень ад пераезду, ад новых уражанняў, заснулі мы хутка. Мне сніліся вялізныя фантастычныя чароды вераб'ёў, якія засланялі сонца. Нават чулася ў сне іх гучнае цвырканне.

А можа, гэта не ў сне, а наяву? Прымусіў сябе прачнуцца; сапраўды, нечым устрывожаны вераб'і.

Я пасунуўся да акна — вунь яно што: на зямлі барсалася птушанятка, выпала з гнязда, а непадалёк ад яго — кошка. Праўда, яна робіць выгляд, што птушаня яе ніколечкі не цікавіць, што яна не галодная, ідзе зусім па іншых справах — ледзь не купацца ў начное мора. Не паспела кошка падысці да птушаняці, як вераб'і дружна наляцелі на яе. Пікіруюць, смела дзяўбуць, хуценька адскакваюць, хто ў хвост, хто ў бока. Драпежніца, утуліўшы галаву ў плечы, неахвотна адступае і, баючыся за свае вочы, нарэшце пускаецца наўцёкі.

Раніцай мы сабраліся на мора, як раптам з вуліцы данёсся крык. Я выглянуў у акно: трое хлопчыкаў сталі непадалёк ад дачы і нечага спрачаліся, часта паўтараючы адно і тое ж слова: „Звірбуліс" Звірбуліс!" У руках яны трымалі рагаткі. Хуліганы, інакш іх і не назавеш. Пасадзілі верабейку на сук сасны, адмералі трыццаць крокаў і сталі на рысе, гатовыя памерацца варварствам.

Мой грозны крык: „Кіньце рагаткі!" зрабіў сваю справу. Хлопчыкі адразу ж кінулі зброю.

— Яшчэ раз убачу з рагаткамі — за вуха і да бацькоў! —

(Працяг на стар. 10)



 

**Песні на заяўках**

## МИЛЛИОН АЛЫХ РОЗ

(в исполнении
Аллы Пугачёвой)

Жил-был художник один,
Домик имел и холсты,
Но он актрису любил
Ту, что любила цветы.

Он тогда продал свой дом,
Продал картины и кров,
И на все деньги купил
Целое море цветов.

Припев:

Миллион, миллион, миллион
Алых роз,
Из окна, из окна, из окна
Видишь ты
Кто влюблён, кто влюблён
И всерьёз
Свою жизнь для тебя
Превратит в цветы.

Утром ты станешь у окна,
Может сошла ты с ума,
Как продолжение сна,
Площадь цветами полна.
Похолодеет душа,
„Что за богач здесь чудит",
А под окном чуть дыша
Бедный художник стоит.

Припев: тот же.

Встреча была коротка,
В ночь её поезд увёз,
Но в её жизни была
Песня безумная роз.
Прожил художник один,
Много он бед перенёс,
Но в его жизни была
Целая площадь цветов.

Припев: тот же.

## МІНІВЕРШЫ

### ДЖАЛА

Каб чым другога ачарніць,
Сябе ж тым самым абяліць,
Змяя людзям даводзіць стала:
— Пчала і тая мае джала!

П. Перап





— Ох, ужо гэтае тыповае будаўніцтва! Не магу сваю піраміду знайсці...

### СУПРАЦОЎНІК

— Гаворыць, вы супрацоўнічаеце з рэдакцыямі шматлікіх журналаў і газет?
— Так.
— У якой галіне?
— Я памагаю ім рашаць красворды, якія яны публікуюць.

### РОЗНІЦА

Прафесар студэнту:
— Якая розніца паміж святлом і электрычнасцю?
— Першае — бясплатнае.

### ПРЫЧЫНА

— Дзіўна, як гэта ты сёння прыйшоў так рана са школы?
— А я забыўся на гадзіннік паглядзець!

### МУЖ

— Ты чаму такі сумны?
— Не тое слова. Я проста ў жаху.
— Ад чаго ж?
— Я сустракаў сваю жонку на вакзале, а яна не прыехала. Баюся, што яна дома яшчэ ад учарашняга дня.



Выбірай: або я цябе буду насіць на руках, або торбу з пакупкамі.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Гайдучык глядзеў па тэлевізару хакей і заснуў.
— Уставай, Йозеф, — будзіць яго жонка. — Ужо адзінаццаць.
— Каб яго, — усклікае ён. — У чыю карысць?

☼

Абураны пакупнік звяртаецца да прадаўшчыка касметычнага аддзялення.
— Пасля ўжывання сродка для росту валос, які я ў вас купіў, у мяне выпалі апошнія іх рэшткі.
— Усё правільна, — гаворыць прадаўшчык, — для таго, каб выраслі новыя валасы, трэба вызваліць месца.

☼

Муж ноччу пачаў раптам крычаць праз сон:
— Ратуйце! Онутэ тоне!
— Якая Онутэ? — дапытвалася ў яго за абедам жонка.
Але падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:
— Ён не можа памятаць, яны пазнаёміліся ў сне...

☼

— Пасля агляду ў лекара шатландзец, выходзячы, дае яму двухпенсавую манету. Доктар, адчуваючы сябе абражаным, пытае пацыента.
— Гэта мне ці медсястры?
— Гэта вам абоім.

З „Веснiка Задрыпонii"

### САРВАНЫЯ ЗДЫМКІ

Так і не закончыліся здымкі масоўкі ў горадзе Ачуцінава. Справа ў тым, што калі актрыса крыкнула: „Грамадзяне, памажыце! Да мяне прыстаюць хуліганы!" — што было прадбачана сцэнарыем, уся масоўка ў працягу мінуты разбеглася, што сцэнарыем прадбачана не было.

### У СВЕЦЕ НАВУКІ

Тэма навуковай дысертацыі М. Свіпча мела вялікую цікавасць: Уплыў паціску рук начальніка на павышэнне прадукцыйнасці працы ў калектыве".



— Гэта мне да твару! Бяру!



— Наколькі я памятаю, вы павінны працаваць над іншай тэмай?



— Хутка я пайду на пенсію.

## Курёзы

### УСЁ РОЎНА

У горадзе Атланта праходзіў кангрэс, на які з'ехаліся начальнікі паліцыі ўсіх гарадоў ЗША. Кожны з удзельнікаў таго кангрэсу знайшоў у сваім гасцінічным нумары надрукаванае папярэджанне пра ўзрастанне злачыннасці ў гэтым горадзе. „Трымайцеся ўвечары на добра асветленых шырокіх вуліцах, унікайце завулкаў. І не паказвайце нікому сваіх грошай, калі вы маеце пры сабе значную суму" — такія былі некаторыя з рэкамендацый удзельнікам кангрэсу. Паліцай — прэзідыум Атланты заявіў: „Да нас прыехала 6000 паліцэйскіх чыноўнікаў, і мы не хочам, каб з імі сталіся тут непрыемнасці".

Ад грабежнікаў нікому ў Амерыцы няма ратунку.

### ЦАНА ЧАЛАВЕКА

Аказваецца, ёсць на белым свеце такія меркі, якімі можна дакладна вызначыць вартасць таго ці іншага чалавека яго цану. Вось, напрыклад, у султанаце Оман мужчына, які прытрымліваецца мусульманскай веры, каштуе ўдвойчы больш за жанчыну той жа веры. Што датычыць людзей, якія не належаць да паслядоўнікаў прарока Магамета, дык яны ў шэсць разоў таннейшыя.

Гэта „расцэнка" зафіксавана ў загадзе міністра ўнутраных спраў султаната аб правілах выплаты кампенсацый людзям, якіх пераехаў аўтамабіль.




І няпрошаны госць добры, калі ён з гасцінцам.